№ 22 (94)
Лістапад 2001

# Права на волю

Бюлетэнь Грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтр "Вясна"



Міжнародныя назіральнікі, крайні справа – Юры ПАЛЯКОЎ.

Фота "ПнВ"

## "Вясна" ў Косаве

### У ліку двух тысячаў міжнародных назіральнікаў, што прысутнічалі на выбарах у Косаве, былі і сем прадстаўнікоў ГА ПЦ "Вясна"

17 лістапада ў Косаве адбыліся арганізаваныя АБСЕ выбары ў мясцовы заканадаўчы сход – Асамблею. Перамогу на гэтых выбарах атрымала партыя Ібрагіма Руговы – "партыя настаўнікаў", як яе называюць, бо ў ёй шмат інтэлігенцыі. Ібрагім Ругова – паэт, яго партыя лічыцца памяркоўнай, цэнтрысцкай.

На выбары ў Косава з краінаў Еўропы былі накіраваныя каля двух тысячаў супервайзераў – асобаў, якія дапамагаюць у арганізацыі выбарчага працэсу. З Беларусі ў Косава прыехала 7 супервайзераў – прадстаўнікоў Праваабарончага цэнтру "Вясна" і Грамадзянскай ініцыятывы "Незалежнае назіраньне". Па вяртаньні ў Мінск беларускія супервайзеры распавялі пра асаблівасьці сваёй працы ў Косава.

Распавядае Валянцін СТЭФАНОВІЧ, юрыст ГА ПЦ "Вясна":

"Нашай галоўнай задачай было забесьпячэньне максімальнага ўдзелу мясцовага насельніцтва ў выбарах і мінімізацыя магчымых фальсіфікацыяў. АБСЕ цалкам распрацавала адміністратыўныя правілы правядзеньня выбараў.

(Працяг на стар. 4-5)



Працэс галасаваньня.

Фота "ПнВ"



Фота "ПнВ"

## Хроніка

*15 лістапада* на плошчы Бангалор у Мінску актывісты Маладога Фронту ладзілі пікет супраць парушэньняў нормаў еўрапейскай палітыкі ў Беларусі, і ў тым ліку супраць парушэньняў свабоды слова – закрыцьця гарадзенскай незалежнай газеты "Пагоня". Маладафронтаўцы трымалі ў руках плакаты "Свабодная Беларусь у Свабоднай Еўропе", "Свабоду слова на Беларусі", "I love Europe" і інш. У пікеце ўзяло ўдзел 10 чалавек, якія раздавалі мінакам выпускі газетаў "Навіны БНФ" і "Весьнік Маладога Фронту". Асаблівых інцыдэнтаў з міліцыяй не ўзьнікала.

*16 лістапада* ў Мінску адбыліся судовыя разгляды адміністратыўных справаў, якія былі ўзбуджаныя супраць абаронцаў Курапатаў пасьля падзеяў 8 і 9 лістапада. Вынесеныя наступныя прысуды:

*Вязьмін Мікалай* – штраф у памеры 30 мінімальных заробкаў;

*Валадзько Мікалай* – штраф у памеры 5 мінімальных заробкаў;

*Цялегін Аляксандр* – штраф у памеры 10 мінімальных заробкаў;

*Кашталян Ірына* – справа спыненая з-за адсутнасьці складу праваларушэньня;

*Сасім Мікіта* — судовае паседжаньне перанесенае на 21 лістапада;

У гэты дзень судзілі таксама *Ткачэнку Мікалая* і *Фабішэўскага*.

Між тым якраз 16 лістапада ўжо некалькі апошніх гадоў людзі ў розных краінах сьвету адзначаюць Міжнародны дзень талерантнасьці акцыямі, накіраванымі на пераадоленьне недаверу і нядобразычлівасьці паміж людзьмі.

(Працяг на стар. 6)

# Зьнікненьне Дзьмітрыя Завадзкага

## Дык куды ж вядуць сьляды?

***23 лістапада ў Мінскім абласным судзе, дзе працягваюцца слуханьні па справе "групы Ігнатовіча", распачаліся допыты супрацоўнікаў беларускага бюро расійскай тэлекампаніі ОРТ у сувязі з эпізодам абвінавачаньня аб выкраданьні Дзьмітрыя Завадзкага.***

Працэс па-ранейшаму праходзіць за закрытымі дзьвярыма ў будынку Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь. Журналістаў на паседжаньні не пускаюць, а вакол будынку пастаянна дзяжурыць вялікая колькасьць міліцыянтаў і супрацоўнікаў сьпецслужбаў у цывільным.

Стала вядома, што на мінулым тыдні Аляксей Гуз – адзін з падсудных па гэтай крымінальнай справе – зьвярнуўся да сваякоў Дз. Завадзкага з заявай, што ні ён, ні Валерый Ігнатовіч, ні іншыя абвінавачаныя ніякім чынам не зьвязаныя са зьнікненьнем тэлеаператара. Сябар Дз. Завадзкага, супрацоўнік ОРТ Павел Шарамет, які некалькі дзён таму знаходзіўся ў Мінску ў сувязі са здымкамі новых серыяў фільму "Апошні год імперыі", прысьвечанага распаду Савецкага Саюзу, у інтэрв'ю агенцтву БелаПАН яшчэ раз пацьвердзіў сваю перакананасьць, што да зьнікненьня Дз. Завадзкага датычныя ўлады Беларусі: "Я лічу групу Ігнатовіча альбо зьвяном у шырокім ланцугу, альбо проста выканаўцамі, – сказаў П.Шарамет. – Я дагэтуль упэўнены, што да гэтай справы датычныя сьпецслужбы. У мяне ёсьць сур'ёзныя падставы падазраваць тагачаснага кіраўніка Савету бясьпекі Віктара Шэймана, які кантралюе пастаўкі зброі з Беларусі. Да гэтага чалавека з кожным днём усё болей і болей пытаньняў. Шкада толькі, што ён зараз курыруе тое ведамства, якое гэтыя пытаньні павінна задаваць (Ён цяпер Генеральны пракурор РБ – *рэд.*)". Паводле зьвестак Шарамета, хутчэй за ўсё, заказ аб выкраданьні Завадзкага А. Лукашэнка асабіста не даваў – гэта самастойныя дзеяньні структураў, зьвязаных з Саветам бясьпекі.

Думкі, што "група Ігнатовіча" ня мае дачыненьня да зьнікненьня Завадзкага, прытрымліваюцца і былы супрацоўнік КДБ Генадзь Угляніца, і актывіст арганізацыі "Край" Андрэй Жарнасек, якія сёлета ў жніўні пакінулі Беларусь і цяпер знаходзяцца ў Нарвегіі. У сваім інтэрв'ю Радыё Свабода Г.Угляніца сказаў, што Дз. Завадзкі быў у Чачні ня два разы, а тры. І падчас трэцяй паездкі ён быў затрыманы расійскімі амапаўцамі. "Але калі мы распачалі справу пошукаў Ганчара і Красоўскага, – кажа Г.Угляніца, – і выйшлі на групоўку Дз. Паўлічэнкі, ягоны САХР (Сьпецыяльны атрад хуткага рэагаваньня – *рэд.*), нам стала вядома, што САХР Паўлічэнкі ў сьнежні 2000 году, пасьля таго, як Паўлічэнку затрымліваў Камітэт дзяржбясьпекі і потым са скандалам выпусьціў, а з пасадаў былі зьнятыя Бажэлка і Мацкевіч (тагачасныя Генеральны пракурор РБ і старшыня КДБ – *рэд.*), САХР быў расфармаваны – яго былы склад, усе людзі з гэтага САХРу ў асноўным паехалі ў Расію, служыць у АМАПе Расіі, у тым АМАПе, які потым ваяваў у Чачні..."


Дзьмітрый ЗАВАДЗКІ.

"Уявіце сабе, – дадае А.Жарнасек, – што 3-4 ліпеня на мерапрыемствах, прысьвечаных сьвяту Дзень Рэспублікі, Дз.Завадзкі выпадкова сустрэў на прысязе ў в/ч 3214, тых людзей, якія затрымлівалі яго ў Чачні, але яны былі ўжо ў форме беларускага войска..."

Такім чынам, сьляды ў справе зьнікненьня Дз.Завадзкага вядуць да таго самага Дз.Паўлічэнкі і далей да Савету бясьпекі...

23 лістапада былі дапытаныя супрацоўнікі бюро ОРТ у Беларусі – яго кіраўнік Дзьмітрый Наважылаў, тэлеаператар Сяргей Гельбах і вадзіцель Яраслаў Аўчыньнікаў. З іх была ўзятая падпіска аб нераскрыцьці дадзеных зьвестак.

Паводле словаў Наважылава, у яго склалася ўражаньне, што судзьдзя, які вядзе працэс, спрабуе разабрацца ў абставінах гэтай крымінальнай справы. Ён выказаў надзею, што калі "да ўніклівасьці судзьдзі будуць дададзеныя прынцыповасьць і мужнасьць, дык вінаватыя ў зьнікненьні Дз.Завадзкага будуць выяўленыя і пакараныя".

# Прачыстка шэрагаў каля "трону"

Ужо даўно заўважана, што адразу пасьля сканчэньня чарговай кампаніі ў Беларусі сярод вышэйшых чыноўнікаў пачынаюцца адстаўкі і арышты з абвінавачаньнем у крымінальных злачынствах. Так было пасьля рэферэндуму 1996 году, пасьля парламенцкіх выбараў 1999 году, так сталася і пасьля нядаўніх прэзідэнцкіх выбараў. А.Лукашэнка ня можа дараваць сваім "паплечнікам" нават драбнейшае ваганьне і падазрэньне ў нявернасьці, а тым больш адкрытае выказваньне сваёй незадаволенасьці палітыкай "бацькі".

Першымі патрапілі пад помсту А.Лукашэнкі былы прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, былы міністр сельскай гаспадаркі Васіль Лявонаў, старшыня калгасу "Расьсьвет" Васіль Старавойтаў, дэпутаты Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Уладзімір Кудзінаў і Андрэй Клімаў і інш. Усіх названых мы яшчэ і цяпер называем палітзьняволенымі, бо яны адбылі пэўны тэрмін за кратамі (Андрэй Клімаў і зараз знаходзіцца там) за гэтакзваныя "эканамічныя злачынствы", хоць іхнія крымінальныя справы былі шытыя белымі ніткамі, з-пад якіх яскрава высьвечвалі палітычныя прычыны.

Ня здрадзіў сваёй традыцыі А.Лукашэнка і пасьля "перамогі" на верасьнёўскіх прэзідэнцкіх выбарах. Адразу пасьля іх у адстаўку былі адпраўленыя, здавалася б, бліжэйшыя паплечнікі: прэм'ер-міністр У.Ярмошын, віцэ-прэм'еры У.Замяталін і М.Дзямчук, кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта М.Мясьніковіч... Некаторыя зь іх ужо атрымалі ганаровыя пасады, некаторыя знаходзяцца ў чаканьні. Толькі вось чаго? Сумы (у сэнсе даходнага цёплага месьцейка) ці турмы (у прамым значэньні)? Апошнія падзеі паказалі, што ўсім ім асьцерагацца ёсьць чаго.

21 лістапада быў арыштаваны дырэктар мінскага ЗАТ "Атлант" Леанід Калугін. Мінскі завод халадзільнікаў – адно з самых стабільных прадпрыемстваў у краіне, але арышт яго дырэктара мала каму падаўся дзіўным. Бо адразу ж прыгадалася, што, нягледзячы на неаднаразовыя захады з боку адміністрацыі Лукашэнкі, Л.Калугін на нядаўніх выбарах прэзідэнта сваю кандыдатуру ня зьняў. А такое не забываецца... Л.Калугін абвінавачваецца адразу па некалькіх артыкулах Крымінальнага кодэксу: у злоўжываньні ўладай альбо службовымі паўнамоцтвамі (арт. 424 ч.3), невяртаньне з-за мяжы замежнай валюты (арт. 225), незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасьці (арт.233 ч.2)... Рабочыя заводу выступілі з заявай у падтрымку свайго дырэктара, у якой выказалі сумненьні, што Л.Калугін, які да таго ж зьяўляецца глыбока веруючым чалавекам і шмат дапамагаў праваслаўнай царкве, учыніў крымінальныя злачынствы. А сам 61-гадовы Л.Калугін адразу пасьля арышту ў сьледчым ізалятары аб'явіў галадоўку, аднак па стане здароўя пратрымаў яе толькі суткі.

Чакае арышту і яшчэ адзін чыноўнік – кіраўнік Беларускай чыгункі Віктар Рахманько, супраць якога таксама ўзбуджаная крымінальная справа. Але паколькі В.Рахманько зьяўляецца членам Савету Рэспублікі (прызначаў яго, як і іншых, сюды сам Лукашэнка), арыштаваць яго можна толькі са згоды Савету...

У нас яшчэ будзе час разабрацца ў сапраўдных прычынах новых арыштаў беларускіх чыноўнікаў. Але за гады кіраваньня краінай А.Лукашэнкі мы ўжо ня раз маглі пераканацца ў тым, што "сваіх" ён не здае і за краты дагэтуль саджаў не эканамічных злачынцаў, а толькі палітычных праціўнікаў.

**А.ЧАС.**

# Права на памылку...

## Мінёр яго ня мае, а ўрач?

...Яна памерла жахліва. Здаровай, адносна маладой, закарцела ёй, на бяду, прайсьці прафілактычны медагляд. Урачыха, не сказаць, што пачаткоўка, разам з вітамiннай ін'екцыяй увяла ёй у вену... паветра. У выніку, як кажуць медыкі, – лятальны зыход. Муж яе, ледзь не звар'яцеўшы ад нечаканага гора, за пахавальнымі жалобнымі турботамі так і ня здолеў давесьці справу да суда. А калі праз час акрыяў – увогуле махнуў на ўсё рукой: што ні рабі, а жонку ўжо ня вернеш...

...Хранічнаму радыкулітчыку ўрач зрабіў масаж. Нягледзячы на тое, што быў кандыдатам медыцынскіх навук, меў ліцэнзію на мануальную тэрапію, у выніку масажу зламаў хвораму пазванок. Пацярпелы так і ня змог даказаць віну няўдалага ўрача-масажыста...

...На лета бацькі адправілі сына ў вёску. А там у малога прыхапіла жывоцік. Напалоханая бабуля выклікала "хуткую". Урачы паставілі дыягназ — апендыцыт. Прывезьлі ў райцэнтр, паклалі на аперацыйны стол. Хірург узняў скальпель і... аслупянеў, убачыўшы на жывоціку шоў – апендыцыт хлопчыку ўжо год як выдалілі...

...Жанчына вырашыла памяняць пломбу ў зубе. Замест абязбольваючага навакаіну дантыст увёў ёй раствор аміяку. Жанчына атрымала хімічны апёк нёба. Лячыць сабралася зуб, а страціла... усю сківіцу. Як сьцьвярджаюць сьпецыялісты, аперацыю па яе прэтэнзаваньні можна зрабіць за мяжой прыкладна за 30 тысячаў даляраў. Кіраўніцтва паліклінікі адмаўляе віну доктара. Маўляў, укол рабіў стажор, які не нясе крымінальнай адказнасьці. Міністэрства аховы здароўя не зьбіраецца кампенсаваць жанчыне ні маральныя, ні фізічныя, ні матэрыяльныя страты...

Але хопіць прыкладаў. Гэтыя выпадкі самых разнастайных урачэбных памылак адбываліся ў беларускіх гарадах, мястэчках і вёсках. Адбываліся і адбываюцца. Калі заняўся гэтай тэмай ушчыльную, проста жахнуўся: у сям'і кожнага(!) майго знаёмага калі-небудзь ды здараліся рознага роду непрыемнасьці (ад кур'ёзных да сьмяротных), наўпрост зьвязаныя з нашым ня дужа навязьлівым медабслугоўваньнем.

Кажуць, у асобных бальніцах у свой час нават музеі стваралiся. Музеі рэчаў (гадзіньнікі, завушніцы, пінцэты, нажніцы...), "забытых" урачамі ў брушынах хворых падчас аперацыяў. Дык вось, "кур'ёзы" гэтыя пад увагу браць ня будзем, хоць і яны – яскравы доказ таго, што не ўсё ў нас з медыцынай гладка ды добра.

Рэч іншая, калі дактары, вызначаючы няправільны дыягназ, лечаць не ад таго, робяць аперацыйныя памылкі, а ў выніку іхняй няякаснай, а часам шкоднай, працы людзі пакутуюць, становяцца інвалідамі, урэшце, губляюць жыцьцё...

У любой рэдакцыйнай пошце процьма пісьмаў ад былых хворых. Мяне заўжды зьдзіўляла меркаваньне чытачоў наконт таго, што ўрач, які добрасумленна паставіўся да сваіх абавязкаў, зьдзейсьніў прафесійны і грамадзянскі подзьвіг! На мой погляд, ён проста выканаў свой абавязак. Як інжынер, рабочы, вадзіцель. Але вадзіцель, які парушыў правілы руху і зьбіў пешахода, ідзе ў турму. Урач, па віне якога пацыент страціў здароўе, – ніколі. Прынамсі, на сваім вяку такіх выпадкаў не прыгадаю. Чаму? Пра магчымыя прычыны крыху ніжэй. Адкінем у бок і тую акалічнасьць, што з-за кепскіх умоваў працы, недастатковай тэхнічнай узброенасьці і адсутнасьці медыкаментаў урач іншым разам проста ня ў стане папярэдзіць хваробу, выявіць яе і спыніць. Пагаворым пра ўрачэбную этыку.

Хтосьці з расійскіх гумарыстаў слушна і трапна заўважыў: "Жыць у нас яшчэ можна, лячыцца – ніколі!" Беларускія рэаліі больш суровыя: і жыць нельга, а лячыцца – дык тым больш. Менавіта такая высновa напрошваецца, калі дэталёва пазнаёмішся з дакументамі калегіі Міністэрства аховы здароўя, на якой разбіралася пытаньне "пра страты і прынясеньне шкоды здароўю пацыента неналежным выкананьнем прафесійных абавязкаў медыцынскім супрацоўнікам у сувязі з увядзеньнем новага Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь". Дык вось, на гэтай калегіі міністр выказаў думку, што "урач мае права на памылку". Ці можна з гэтым згадзіцца? Ці не зашмат гэтых памылак?

Член-карэспандэнт Міжнароднай акадэміі герантагогіі, кандыдат медыцынскіх навук Валеры Шумілаў у інтэрв'ю карэспандэнту "Права на волю" пацьвердзіў тое, пра што ня раз казаў у незалежным друку: "Урач, як і сапёр, ня мае права на памылку. Сапёр расплочваецца за няправільны крок сваім жыцьцём, урач – здароўем і жыцьцём пацыента (ды яшчэ і грошы атрымлівае). Натуральна, ніхто не застрахаваны ад памылак. І практыкуючы ўрач не абыдзецца без іх, але трэба ведаць: памылка памылцы – розьніца. Калі за ёй – жыцьцё пацыента, яна – недаравальная. "Артыкул 162 Крымінальнага кодэксу за "неналежнае выкананьне прафесійных абавязкаў медработнікам" прадугледжвае пакараньне штрафам альбо трохгадовым пазбаўленьнем волі. Але пачуць такі прысуд несумленнаму ўрачу – справа амаль нерэальная, бо ў дзеяньне ўступае такі фактар як карпаратыўнасьць. Інакш кажучы, адзін непрафесіянал заўжды падтрымае і выратуе другога. У выніку любы канфлікт паміж доктарам і пацыентам заканчваецца для першага вымовай, сьмецьце з хаты не выносіцца, уся інфармацыя – кампрамат застаецца ў межах медкабінету. Нават Біл Клінтан, колішні прэзідэнт Амерыкі, гаварыў аб урачэбных памылках як аб пагрозе нацыянальнай бясьпецы. Памылкі гэтыя займалі пятае месца сярод прычынаў сьмяротнасьці ў Амерыцы. А што казаць пра Беларусь?! Мы ж, у адрозьненьне ад амерыканцаў, толькі здагадваемся аб аналагічнай беларускай статыстыцы. Яна для нас – за сямю пячаткамі. Нават журналісту атрымаць хоць нейкую інфармацыю ў Міністэрстве аховы здароўя немагчыма. Органы ўпраўленьня аховы здароўя адстойваюць не правы хворых, а свой міфічны і ні чым не абгрунтаваны прэстыж. Калі ў Амерыцы ад урачэбных памылак гіне штогод 100 тысячаў амерыканцаў (больш, чым ад раку і СНІДу), то што робіцца ў нас?! Знаёмыя ўрачы пад вялікім сакрэтам прызнаюцца, што дзеля захаваньня цэхавай маркі, ісьці даводзіцца на самыя розныя хітрыкі: перапісваць гісторыі хваробаў у тых пацыентаў, якія памерлі ці сталі інвалідамі ад няправільнага лячэньня; "губляць" медыцынскія карты; падтасоўваць факты, лічбы... Пра якую ўрачэбную этыку можна весьці гаворку? Адсутнасьць нармальнай

(Працяг на стар. 6)




Фота "ПВ"

# "Вясна" ў Косаве

(Пачатак на стар. 1)

Мяне накіравалі ў муніцыпальны рэгіён Мелішава. Я жыў у невялічкім мястэчку Арахавац. Гэта захад Косава, непадалёк ад албанскай мяжы. Жылі мы ў доме ў гаспадара-албанца – усяго 7 супервайзераў: чэхі, славакі і я. У гаспадара было 7 дзяцей, што зьяўляецца характэрным для албанскіх сем'яў. У гэтыя дні быў якраз Рамадан і ўсе вернікі-мусульмане (у тым ліку і сябры камісіі) не ўжывалі ежы і не пілі вады на працягу дня да заходу сонца. А калі сонца зайшло, усе пайшлі есьці сьвяточную ежу. Запрасілі і мяне. Там былі розныя салодкія прысмакі, падобныя на лукум і бурэк (рэч падобная да піцы – з цеста, унутры з сырам і рознымі прыправамі). Пілі салодкую гарбату.

Нам нельга было адмаўляцца, калі нечым частуюць, бо гэтым можна абразіць чалавека, які вырашыў цябе пачаставаць.

Камісіі фармаваліся з прадстаўнікоў розных палітычных партыяў, якія маюцца ў Косава. У задачу супервайзераў уваходзіла сачыць за выкананьнем патрабаваньняў АБСЕ, за парадкам на выбарчым участку. Назіральнікі мелі доступ да ўсёй інфармацыі, апрача парушэньня таямніцы галасаваньня. Выбарчая працэдура распрацаваная дасканала. Падмяніць бюлетэнь немагчыма. Бюлетэні мелі абарону – вадзяныя знакі і серыйны нумар. Калі бюлетэнь адрываўся, дык заставаўся карашок-квіток з серыйным нумарам. Пасьля ўсе квіткі разам з нявыкарыстанымі бюлетэнямі былі складзеныя ў асобным мех і апячатаныя. Выбарчыя скрыні былі пластыкавыя, але не зусім празрыстыя, каб не было бачна, хто за каго галасаваў. Скрыня апячатвалася не пластылінам і не сургучом, а пластыкавым дротам, які сьцягваўся так, што яго немагчыма зьняць. Перад тым, як выдаць бюлетэнь выбаршчыку, яму на ўказальны палец правай рукі наносіўся спрэй з нябачных чарнілаў. На выбарчым участку стаяў чалавек з ультрафіялетавай лямпай, які правяраў, каб ніхто не ішоў галасаваць паўторна. Вельмі шырокі сьпектр сапраўдных і несапраўдных бюлетэняў – галоўнае, каб было бачна, што чалавек выказаў сваю волю.

Выбары праходзілі па прадстаўнічай сістэме. Былі прадстаўленыя розныя партыі і незалежныя кандыдаты. Усіх прэтэндэнтаў было 25. У Асамблеі прадугледжваецца 120 месцаў. З іх 20 зарэзэрвавана за нацыянальнымі камунамі – 10 за сербамі, 3 за басьнійцамі, столькі ж за гуранамі, туркамі і цыганамі. Астатнія прадстаўнікі партыяў.

Міжнароднае войска KFOR складаецца з вайсковых частак шмат якіх краінаў. У Косаве ёсьць нямецкая, амерыканская, французкая, італьянская зоны кантролю. Таксама прысутнічаюць вайсковыя аддзелы іншых краінаў. Там, дзе мы жылі, была нямецкая зона кантролю, і таму тут у асноўным стаялі нямецкія войскі. Аднак яшчэ былі некалькі расейскіх лагераў, якія у межах KFOR выконвалі функцыі па ахове парадку. Дык вось, трэба адзначыць, што жыхары Арахаўца вельмі не хацелі, каб расейцы ўвайшлі ў іхні горад. Яны тлумачылі гэта тым, што расейцы ўдзельнічалі ў югаслаўскім войску і зьдзейсьнілі шмат злачынстваў супраць цывільнага насельніцтва. Албанцы перагарадзілі дарогу жывым ланцугом і стаялі так два месяцы – жылі ў намётах – не пускалі расейцаў у горад. Так расейцы і засталіся за межамі гораду, кантралюючы дарогу, якая ідзе з Арахаўца ў Мелішава. Там стаяць расейскія блокпасты.



Валянцін СТЭФАНОВІЧ.

Вельмі цікавыя, вядома, уражаньні, ад праезду праз блокпасты. Хаця да нас ніхто не чапляўся, аднак сама па сабе гэтая працэдура непрыемная: ты праязджаеш у машыне на маленькай хуткасьці, вакол стаяць узброеныя жаўнеры, і ты разумееш, што зброя ў іх не цацачная, а самая сапраўдная. Ты разумееш, што адчуваюць мірныя жыхары Чачні. Хаця зразумела, што гэта міжнародныя сілы выконваюць вельмі важную ролю па ахове парадку. Непадалёк ад вёскі Сеньнік, дзе я быў назіральнікам, стаяў таксама расейскі лагер.

Яшчэ мы былі ў горадзе Прызрэн. Гэта даволі вялікі горад бліжэй да поўдня. Там мы зайшлі ў сербскі квартал, дзе яшчэ жывуць сербы. Гэта, канечне вельмі жахліва... З-за вайны ў грамадзтве адчуваецца вялікае напружаньне, вялікая ўзаемная нянавісьць. Усе сербы, якія маглі зьехаць з Косава, зьехалі. Засталіся людзі, у якіх няма грошай. У асноўным гэта старыя, якія ня могуць нікуды зьехаць, бо ім няма куды ехаць. Яны вымушаныя жыць фактычна ў гета за калючым дротам. Міжнародныя сілы ахоўваюць сербаў і не дазваляюць марадзёрам ды розным іншым крымінальным элементам рабаваць іхнія дамы. Але тым ня менш вельмі сур'ёзнае напружаньне адчуваецца. Нас вельмі ўразіла вялікая старажытная царква на высокай гары ў Прызрэне. Мы хацелі зайсьці ў яе. Але там стаяў нямецкі пост, і нас не прапусьцілі. Мы спачатку абурыліся, а пасьля зразумелі: гэта вельмі важна, што жаўнеры ахоўваюць усе цэрквы ў горадзе Прызрэне. Цэрквы знаходзяцца за калючым дротам, там напісана "Зона KFOR". Гэта важна, таму што KFOR (у дадзеным выпадку немцы), ахоўвае помнікі архітэктуры, каб пазьбегнуць іх разбурэньня з боку агрэсіўна настроеных албанцаў.

Увогуле ў цэлым Косава адыходзіць ад баёў, ад вайны. Шмат будуецца дамоў. Там, дзе я быў, Косава нагадвала суцэльную будаўнічую пляцоўку – будуюцца дамы, будуюцца крамы. Людзі працуюць, хаця сьляды вайны бачныя – спаленыя дамы. У паветры дагэтуль стаіць пах гарэлага. Вельмі шмат магілаў паўсюль. Едзеш па дарозе і паўсюль бачыш гэтыя магілы – на іх фотаздымкі ў форме албанскага вызвольнага войска. У асноўным гэта маладыя людзі 25 гадоў ці менш. Усе яны былі ў войску, якое змагалася з урадавымі сіламі Югаславіі. У Арахаўцы вялікая магіла ўсіх жаўнераў з гэтага рэгіёну, якія загінулі. Магіла ўся ў кветках. Бачыў мячэць, якая ўся ў сьлядах ад куляў, асколкаў і з дзіркай, што засталася ад трапленьня снараду. Тым ня менш на мячэці вісіць албанскі сьцяг і яна дзеючая. Гэтая мячэць як сімвал, які нягледзячы ні на што выстаяў і стаіць.

Калі мы ехалі на аўтобусах, я бачыў уздоўж дарогі агароджы, дзе вызначана, што тут знаходзяцца міны – там чырвонымі стужкамі агароджана, вісяць таблічкі. Дарэчы нас вучылі, якія міны бываюць – супрацьпяхотныя, у тым ліку і самаробныя. Нам казалі, каб мы не хадзілі па месцах былых баёў і ні ў якім выпадку не бралі снарады і гранаты, якія не разарваліся "у якасьці сувеніраў дадому".

Ці былі канфліктныя сітуацыі на выбарчых участках? Узгадваецца толькі адна праблема... Нам падчас выбараў трэба было глядзець, каб на выбарчым участку і ў радыусе 100 метраў ад участку не было ніякіх агітацыйных матэрыялаў. У тым ліку нацыянальных сьцягоў. І ўзьнікла пытаньне: "А што рабіць, калі албанцы прынясуць свой албанскі сьцяг і захочуць павесіць яго каля выбарчага ўчастку?" Нам патлумачылі: "Гэтага не павінна быць, але, калі албанцы будуць настойваць, а вы будзеце бачыць, што гэта можа перашкодзіць стабільнасьці на выбарчым участку і спакойнаму выбарчаму працэсу... То, у прынцыпе, нічога страшнага, калі яны павесяць сьцяг". Прыкладна так і атрымалася. Спачатку мы пазнаёміліся са сваёй выбарчай камісіяй. Падрыхтавалі выбарчы ўчастак, усталявалі выбарчыя кабінкі, паставілі сталы. Вырашылі сумесна са старшынёй камісіі, як будуць ісьці выбаршчыкі, хто з сяброў камісіі будзе выконваць якую функцыю. У нас былі два сьцягі – ААН і АБСЕ (нам іх выдалі). Мы павесілі сьцягі ААН і АБСЕ над школай, дзе адбываліся выбары. І албанцы адразу прынесьлі свой сьцяг і сказалі: "Мы таксама павесім свой сьцяг!" Чырвоны сьцяг з чорным дзвюхгаловым арлом. Спачатку мы з напарнікам-славакам паспрабавалі сказаць: "Можа быць, ня варта яго вывешваць?" Але албанцы выглядалі даволі рашуча. І я падумаў: "У гэтым раёне албанцы складаюць абсалютную большасьць – 90%. Сербы на маім участку не галасуюць. Ніякай праблемы і трагедыі не будзе, калі над гэтай школай будзе вісець албанскі сьцяг. Галоўнае, каб ён не вісеў унутры ўчастку. А калі б мы, беларусы, вывешвалі бел-чырвона-белы сьцяг, а міжнародныя арганізацыі забаранялі?". Албанцы былі задаволеныя, што мы з паразуменьнем паставіліся да іх. Выбары прайшлі спакойна. Але быў выпадак, калі адна амерыканка ўсё ж такі зьняла албанскі сьцяг з будынку, у якім адбываліся выбары. Атрымалася не-

прыемная гісторыя. Выбары былі спыненыя. Албанцы адмаўляліся прымаць удзел у галасаваньні, пакуль ня вернуць сьцяг. Такім чынам, амэрыканка праславілася і нават трапіла на старонкі мясцовай прэсы, дзе быў апісаны гэты выпадак.

Пра Беларусь албанцы мала што ведаюць. Некаторыя лічаць, што гэта частка Расіі. Яны больш ведаюць заходнія краіны. Усходнееўрапейскія – горш. Чэхаў, напрыклад, называюць чэхаславакамі. Адносна Усходняй Эўропы жывуць яшчэ па старых часах. Вядома, я распавядаў у Косава пра нашу краіну. І пра тое, што Мілошавіч быў лепшым сябрам Лукашэнкі. А Мілошавіча там, вядома ж, ненавідзяць, бачаць у ім адну з галоўных прычынаў свайго няшчасьця. Менавіта Мілошавіч пазбавіў албанцаў аўтаноміі, якую яны мелі ў Югаславіі і зачыніў албанскі ўнівэрсітэт у Прыштыне. Усё гэта прывяло да таго, што падзеі пачалі разгортвацца менавіта так, як яны пачалі разгортвацца. А пасьля прыйшлі сэрбскія салдаты перад якімі стаяла задача ачысьціць Косава ад албанцаў. Пачаліся этнічныя чысткі, безумоўна, шмат людзей забівалі. Калі б не было Мілошавіча, то, магчыма, праблемы албанцаў былі вырашаныя іншым чынам – мірным.

Мой перакладчык Фішнір скардзіўся, што ня можа спаць пасьля вайны. У яго, відаць, неўроз. Падчас вайны яго сям'я была вымушаная ўцякаць. Сэрбы бамбавалі гарады, але не авіяцыяй, а артылерыйскім абстрэлам. Нягледзячы на ўсё, мой перакладчык захаваў філасофскі склад розуму, ён гаварыў: "Не бывае кепскіх нацыянальнасьцяў. Толькі людзі дзеляцца на кепскіх і добрых. І сярод сэрбаў шмат добрых людзей. І сярод албанцаў ёсьць шмат кепскіх".

Мне здаецца, узаемная нянавісьць у Косаве павінна зьнікнуць. Галоўнае, што зараз жыхары краю абралі дэмакратычную ўладу і ў далейшым самі вырашаць свой лёс".

**Распавядае Зьміцер Салаўёў, прадстаўнік ГА ПЦ "Вясна", г. Наваполацак:**

"Спачатку мы прайшлі ў Грэцыі курс навучаньня выбарчай працэдуры – якім чынам павінны адбывацца гэтыя выбары. Натуральна, на кожным участку была выбарчая камісія на чале са старшынёй, але мы мелі такія кантрольныя задачы – сачыць, каб усе дзеяньні адпавядалі выбарчай працэдуры, якая, дарэчы, была распрацаваная вельмі дакладна – прадугледжваліся ўсе варыянты, каб выбары адбыліся свабодна, дэмакратычна і немагчымыя былі нейкія фальсіфікацыі і злоўжываньні. Было некалькі сістэмаў кантролю.

Кожны з нас, хто ўваходзіў у місію АБСЕ, перад ад'ездам у Косава пісаў тастамент на выпадак, калі здарыцца няшчасьце. Калі ён загіне, дык людзі, якіх ён указаў у запавеце, атрымаюць 160 тысячаў еўра. Але нашая бясьпека была забясьпечаная на некалькіх узроўнях. Хаця асабістай аховы ніхто з нас ня меў, бо не было такой патрэбы. Мясцовае насельніцтва да прадстаўнікоў АБСЕ ставілася вельмі станоўча. Усе тут упэўненыя, што АБСЕ – арганізацыя, якая дапамагае ім пераадолець праблемы і наладзіць жыцьцё. Лепшым ахоўнікам там зьяўляецца дакумент, які сьведчыць пра тваю прыналежнасьць да АБСЕ. Сітуацыю там кантралююць міжнародныя вайсковыя часткі KFOR. Акрамя таго, там дзейнічае міжнародная паліцыя.

Я лічу, што ўся сітуацыя цалкам пад кантролем. Небясьпека нашым жыцьцям, праўда, там была: яшчэ дагэтуль шмат неразмініраваных участкаў. Але, калі не хадзіць куды не трэба, то небясьпека мінімальная. Мяне ўразіла, што краіна знаходзіцца ў пасьляваенным стане, але людзі актыўна будуюць сваё мірнае жыцьцё. Наколькі я зразумеў, гэтыя людзі ніколі ня будуць цярпець над сабой няволю і зьдзекі іншых".

**Распавядае Юры Палякоў, Міжнародны каардынатар Грамадзянскай ініцыятывы "Незалежнае назіраньне":**

"Мой участак быў на мяжы з Албаніяй у вельмі далёкай вёсцы Грамасел, адкуль пачалося супраціўленьне албанцаў сэрбскаму войску. Выбарчы ўчастак быў у звычайнай школцы, мы вельмі баяліся, што ня будзе электрычнасьці. Там жа цямнець пачынае ў 15.00, а ўчасткі адчыненыя з 7 раніцы да 19.00. Звычайна ў гэтым раёне Косава электрычнасьць падаецца два разы ў дзень па тры гадзіны, вада таксама. Але ў дзень выбараў улады пайшлі насустрач і далі электрычнасьць на цэлы дзень. Я працаваў з галандцам, амэрыканкай і гішпанкай. У нас быў цэнтр, у які ўваходзілі 4 участкі. Кожны быў адказны за свой. На маім участку было 600 выбаршчыкаў, галасаваць прыйшло – 420. Значыць яўка была 65%. Людзі прыходзілі ў асноўным зраніцы. Ужо а сёмай гадзіне мы ўбачылі досыць вялікую чаргу выбаршчыкаў. Участкі былі "раскіданыя" па прозьвішчах, звычайна вёска – гэта людзі з аднолькавымі прозьвішчамі, толькі імёны розныя. У мяне было амаль 300 чалавек з адным прозьвішчам.

Зьдзівіла вялікая колькасьць цалкам непісьменных людзей у вёсках. У асноўным гэта жанчыны сярэдняга ўзросту. Яны ні пісаць ня ўмелі, ні чытаць, таму ім дапамагалі сваякі. Але шмат хто з мясцовых ведаў нямецкую мову, бо езьдзілі на заробкі ў Нямеччыну. Я звычайна з мясцовымі размаўляў па-нямецку, і да таго ж у мяне быў перакладчык, які гаварыў па-ангельску. Некаторыя ведаюць рускую мову, бо працавалі на рускай Поўначы падчас існаваньня Савецкага Саюзу.

У рэгіёне, дзе я кантраляваў выбары, сэрбаў амаль не было. Толькі ў манастыры жылі сэрбы-манахі. Манастыр ахоўваўся кантынгентам шматнацыянальнай брыгады. Там стаялі італьянскія часткі. Вакол манастыру некалькі шэрагаў калючага дроту. Албанцаў не падпускаюць на кіламетр да гэтай зоны. Стаяць танкі, браневікі, жаўнеры. Уначы амэрыканцы павезьлі нас у гэты манастыр, каб мы пабачылі службу. Мне было вельмі цікава. Я сам праваслаўны. Манастыр 13 стагоддзя. Там ахоплівае вельмі асаблівае адчуваньне. І жывуць там манахі, як у турме, бо выйсьці нікуды нельга. Усе манахі знаходзяцца там добраахвотна, праваслаўнае духавенства ня мае права нікога накіроўваць у гэты манастыр. Кожны едзе туды па закліку сэрца. І што мяне зьдзівіла, што падчас нашага візіту, яны якраз прымалі трох новых манахаў. Настаяцель айцец Сава вельмі адукаваны чалавек, цудоўна размаўляе па-ангельску, робіць старонку ў інтэрнэце.

Гэты рэгіён Косава падчас вайны быў разбураны цалкам. Нам паказвалі здымкі 1999 году – там было ўсё зруйнавана, як у Хірасіме. Адныя падмуркі стаяць. І цяпер яшчэ ёсьць сьляды вайны – і дамы з дзіркамі ад куляў, і разбураныя цэрквы, і мячэці, шмат інвалідаў, шмат параненых (як мужчынаў так і жанчын). Вельмі шмат помнікаў загінуўшым удзельнікам Албанскага вызвольнага войска. Але адбудаваліся яны дастаткова хутка. Жанчыны працуюць у прыватным сектары, а мужчынам застаецца толькі будаваць, бо іншае працы няма – беспрацоўе. Адкуль тады грошы на будаўніцтва? Сем'і тут вялікія, і нехта адзін выпраўляецца на заробкі, напрыклад, у Германію. Дасылае грошы, і за гэтыя грошы сям'я будуе жыльлё.

Выбары былі вельмі добра арганізаваныя. АБСЕ прыклала вельмі шмат намаганьняў дзеля гэтага. На маім участку было 8 назіральнікаў ад розных палітычных касаўскіх партыяў, а таксама назіральнікі з Еўразьвязу. Прадстаўнікі розных партыяў усьміхаліся адзін адному. Ніякае напругі ў іхніх узаемаадносінах я не заўважыў. Да нас у Косаве ўсе вельмі добра ставіліся – як да прадстаўнікоў АБСЕ, што прынесьлі ў край дэмакратыю.



"...Асьцярожна, міны!" – ідзе вучоба супервайзераў.

**Падрыхтавалі Валянціна ЛЕЦКА і Паліна СЬЦЕПАНЕНКА.**

# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар.1)

***18 лістапада*** адбыліся судовыя разгляды адміністратыўных справаў абаронцаў Курапатаў. Судзілі ***Андрэя Ягорава***, які прысутнічаў 9 лістапада вечарам пры затрыманьнях у Курапатах, як назіральнік ад Праваабарончага цэнтру "Вясна" (з бэджам назіральніка на куртцы). Бэдж назіральніка быў канфіскаваны ў А.Ягорава пры затрыманьні і далучаны да справы. Суд Савецкага раёну г.Мінску вынес наступнае рашэньне па адміністратыўнай справе А.Ягорава – штраф у памеры 6 мінімальных заробкаў. ***Аляксандр Губейка***, які ў 12 гадзінаў дня 9 лістапада ішоў на прэс-канферэнцыю ў Курапаты і па дарозе быў затрыманы супрацоўнікам міліцыі, таксама атрымаў па рашэньні суда адміністратыўнае спагнаньне – штраф у памеры 10 мінімальных заробкаў. А ***Генадзь Дранковіч*** – быў аштрафаваны на 6 мінімальных заробкаў.

***19 лістапада*** на вуліцы Савецкай у Горадні адбыўся несанкцыянаваны пікет у абарону закрытай Вышэйшым гаспадарчым судом Беларусі газеты "Пагоня". У акцыі прыняло ўдзел больш за 100 удзельнікаў — журналістаў і чытачоў газеты, якія разгарнулі лозунгі, у якіх асуджалася падаўленьне свабоды слова ў Беларусі. Пасьля завяршэньня акцыі пратэсту рэдактар газеты ***Мікола Маркевіч*** і журналісты ***Анджэй Пісальнік*** і ***Павел Мажэйка*** былі запрошаныя ў аддзел міліцыі Ленінскага раёну, дзе ў дачыненьні да іх былі складзеныя пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэньні газеты (артыкул 167-1 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэннях Рэспублікі Беларусь). Ужо 20 лістапада справы Анджэя Пісальніка і Паўла Мажэйкі разгледжаныя ў судзе Ленінскага раёну горада Горадні. Суд над рэдактарам "Пагоні" Міколам Маркевічам адбудзецца пазьней, пасьля яго вяртаньня з Польшчы: адразу пасьля правядзеньня пікетаваньня Мікола Маркевіч адбыў у гэтую краіну дзеля сустрэчы з уплывовымі палітыкамі. Беларускі журналіст мае намер прапанаваць ідэю арганізацыі слуханьняў у Сейме Рэспублікі Польшча па пытаньні аб закрыцьці адной з вядучых дэмакратычных газетаў і наступу на свабоду слова ў Беларусі.

***21 лістапада*** ў судзе Савецкага раёну г. Мінску працягваліся суды над абаронцамі Курапатаў. Вынікі судовых разглядаў наступныя:

***Ткачэнка Мікалай*** — штраф у памеры 5 мінімальных заробкаў (судзьдзя Руслан Казадаеў);

***Афнагель Яўген*** – штраф у памеры 6 мінімальных заробкаў (судзьдзя Аксана Рэлява);

***Казакевіч*** — суд перанесены на 26 лістапада на 14.00 (судзьдзя Іна Шэйко);

***Сасім Максім*** – суд перанесены на 27 лістапада на 14.30 (судзьдзя Аксана Рэлява).

***27 лістапада*** ўначы быў учынены пагром у офісе Свабоднага прафсаюзу Мінскага трактарнага заводу. Намесьнік старшыні ГА БНФ "Адраджэньне" і Партыі БНФ, рэдактар газеты "Рабочы" Віктар Івашкевіч лічыць, што "гэта працяг працы па ліквідацыі свабодных прафсаюзаў на прадпрыемствах. Адносна прафсаюзаў рэжым мае дзьве тактыкі. Адносна Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай — умяшальніцтва ў яе ўнутраныя справы і імкненьне паставіць на кіруючыя пасады паслухмяных чыноўнікаў, а што тычыцца Свабодных прафсаюзаў, то гэта нерэгістрацыя пярвічных арганізацыяў, іх ліквідацыя, імкненьне вывесьці іх за межы легальнай дзейнасьці. Такая тактыка пачалася з 1999 году і яна працягваецца пасьля выбараў".

***29 лістапада*** ў Магілёве пачаўся разгляд адміністратыўнай справы ***Віктара Ясюкевіча*** і ***Тамары Леўскай***, якія ўваходзілі ў склад ініцыятыўнай групы кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Ганчарыка. Іх абвінавачваюць у невыкананьні патрабаваньняў міліцыі падчас агітацыйнай кампаніі на мінулых прэзідэнцкіх выбарах. Супраць Віктара Ясюкевіча і Тамары Леўскай узбудзілі крымінальную справу за супраціўленьне міліцыянту.

## 10 сьнежня – Дзень прыняцьця Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека



***Гістарычны здымак:*** *Нью Ёрк, 21 чэрвеня 1981 году, мітынг прадстаўнікоў беларускай дыяспары ў ЗША ў абарону дысыдэнта Міхася Кукабакі перад будынкам ААН.*

***Фота Алекса Сільвановіча.***

# Права на памылку...

(Пачатак на стар.1)

адказнасьці, прафесійнай культуры. Нават клініка-анатамічныя канферэнцыі, раней рэгулярныя ў кожнай бальніцы, перасталі праводзіцца. Урачы чамусьці перасталі вучыцца на сваіх памылках.

Дык адкуль столькі непрафесіяналаў у белых халатах? Ня раз пісаў пра тое, што на Белрусі не ў пашане класныя сьпецыялісты. Хто добра працуе, той шмат ведае, хто мае шырокі кругагляд і высокі інтэлект, той ня можа ня бачыць развалу ва ўсіх галінах жыцьця і вытворчасьці, а таму цудоўна разумее прычыны беларускага заняпаду. Такіх у нас не любяць. Медыцына — не выключэньне... А медыцынскія ВНУ заўжды былі на Беларусі прэстыжнымі. Хабар за паступленьне ў іх — адпаведна высокі. І паступае вучыцца на медыка ня той, хто шмат жадае, а хто больш дае. Відаць, менавіта адсюль усе небясьпечныя і непрыемныя для нас, патэнцыяльных пацыентаў — хворых, наступствы. Калі ўрач-невук прыходзіць працаваць у бальніцу з кепскім медабсталяваньнем, недастатковай лекавай базай — адмоўны эфект павялічваецца ўдвая, утрая. А пакутуем мы!

Гаворка дасюль ішла пра памылкі, так бы мовіць, ненаўмысныя, непрафесійныя. Але ў медаля ёсьць і другі бок: калі сутнасьць урачэбных "недарэчнасьцяў" крыецца ў пэўным палітыка-дзяржаўным заказе. Прыклады — таксама ёсьць.

Я больш чым перакананы, што Беларусь — краіна алкаголікаў. Афіцыйнай статыстыкай дадзены факт пацьвярджаецца вельмі няўцямна. Па той прастой прычыне, што беларускія п'яніцы паступаюць і паміраюць не ад алкагалізму, а ад сардэчных захворваньняў.

І лічбы небясьпечнага радыяцыйнага ўзьдзеяньня былі б больш жахлівымі, калі б чарнобыльцы не зьнімаліся без падстаў з доўгатэрміновага медыцынскага ўліку. Я ўжо не кажу пра малыя дозы радыяцыі, рэальнае існаваньне якіх афіцыйная медыцына проста ігнаруе, як зрэшты, і дыягназ "прамянёвая хвароба".

І мой аповед быў бы няпоўным, калі б я не нагадаў пра таямнічую сьмерць вядомага палітыка Генадзя Карпенкі — самага рэальнага прэтэндэнта на прэзідэнцкі пост. Па якой прычыне пайшоў з жыцьця энергічны і перспектыўны дзяржаўны дзеяч. Мо толькі таму, што трапіў у бальніцу і камусьці гэта было вельмі выгадна?..

Не заклікаю распачаць суровую справу пад агульным назовам "Справа беларускіх урачоў", як гэта было калісьці ў гады сталінскіх рэпрэсіяў. Але і не хачу, каб усё ішло так, як ідзе. Адстойваючы свае чалавечыя правы, выйсьце бачу ў зьмене нацыянальнай дзяржаўнай палітыкі. Калі народ жыве кепска і ня надта доўга, мяняць трэба не "стрэлачнікаў", а прэзідэнтаў.

**Алесь ГАРКУН.**

# "Камароўская" справа

**_У судзе Савецкага раёну г. Мінску скончыўся разгляд справы грамадзяніна Тунісу Гафсі Шакры Бэн Хамды, пра якую бюлетэнь "Права на волю" пісаў у №85-86. Пракурор патрабаваў для падсуднага дзевяць гадоў турмы; вырак суда стаў не нашмат мякчэйшы: восем з паловай..._**

### Ад першага да пятага паседжаньняў

Нагадаем, што грамадзянін Тунісу, які працаваў на мінскім Камароўскім рынку, быў абвінавачаны ў махлярстве. Падставай дзеля гэтага стала ягоная грашовая запазычанасьць некалькім калегам па працы і цяжкасьці з вяртаньнем пазыкі пасьля канфіскацыі партыі тавару міліцыяй. Падчас затрыманьня Шакры супрацоўнікамі Савецкага РУУС Мінску зьніклі ягоныя дакументы, а заявы пацярпелых зьявіліся ў міліцыі нашмат пазьней за само затрыманьне (хоць яны павінны былі, па логіцы і законе, быць першапрычынай і падставай дзеля яго).

Увесну 2001 году пасьля двух паседжаньняў судовы працэс быў адкладзены і адноўлены толькі напрыканцы жніўня. Агалошваньне прысуду па даволі складанай, на думку юрыстаў, справе адбылося, такім чынам, на пятым паседжаньні судовай калегіі.

### Сьведка, ператвораны ў махляра

У ходзе разгляду справы выявіліся цікавыя дэталі. Камароўскі гандляр-замежнік быў затрыманы міліцыяй пасьля таго, як паводле ягонай заявы ўпраўленьне КДБ па Савецкім раёне Мінску распачало расьсьледаваньне махінацыяў на Камароўскім рынку ў рамках заведзенай крымінальнай справы. Такім чынам, увесну 2000 году Гафсі Шакры быў двойчы выкліканы на допыт у КДБ у якасьці сьведкі. І, па дзіўным супадзеньні, сам праз колькі дзён апынуўся за кратамі. Пры гэтым супраць яго сьведчылі альбо выступалі ў якасьці пацярпелых тыя самыя людзі, з якімі толькі што пачаў разьбірацца КДБ. Цікава, што менавіта адказчыкі, раптам ператвораныя ў пацярпелых, лічацца "дахам" "Камароўкі" — так званымі "бацькамі" рынку, ягонымі гаспадарамі, што фактычна дыктуюць там свае парадкі...

### Вакол ды каля "камароўскай" справы

Гісторыя з туніскім прадпрымальнікам у дэталёвым разглядзе яскрава малюе ўмовы працы і жыцьця камароўскага – як і ўвогуле рынкавага – гандляра, дробнага прадпрымальніка, які пастаўляе ці рэалізуе тавар. Гэтыя ўмовы і варункі сёньня даволі няпростыя. Падобна, рэч тут не толькі ў скіраванасьці эканамічнай палітыкі ў краіне (вунь ужо і Лукашэнка гучна загаварыў пра неабходнасьць паслабленьня "лейцаў" для прадпрымальніцтва). Калі сама ўлада – па сутнасьці мафіёзна-кланавая, будзе і лібералізацыя для "сваіх", будуць і такія ж мафіёзныя групоўкі ва ўсіх сьферах жыцьця, зь якімі гэтая ўлада здолее дамовіцца пра цану ўзаемнага неўмяшальніцтва. Своеасаблівы "дах" для любога бізьнесу. І ня толькі. "Дах" можа быць у тым ліку і для журналістыкі.

Журналісты адной з самых масавых у Беларусі "прэзідэнцкай" газеты маглі б адыграць значную ролю ў лёсе герояў сумнай гісторыі з Гафсі Шакры. Прынамсі, сёньняшні асуджаны мог бы ня быць нават падсьледным, а ня тое што падсудным. Амаль два гады таму наш герой зьвярнуўся да галоўнага рэдактара гэтай газеты, распавёўшы пра выпадкі карупцыі на Камароўскім рынку. Рэдактар, чалавек вопытны ў журналістыцы, вырашыў не сьпяшацца з сенсацыяй, праверыць факты – некалькі супрацоўнікаў самай тыражнай дзяржаўнай газеты Беларусі з гэтай мэтай нават часова зьмянілі прафесію, гандлявалі на "Камароўцы"... Негатыўная інфармацыя пра калярынкавыя махінацыі пацьвердзілася. Але замест таго, каб напісаць і зьмясьціць на старонках выданьня адпаведны артыкул, аўтары выданьня маўчалі, а рэдактар яго прадставіў факты злоўжываньняў самому прэзідэнту. У выніку было замененае ня толькі кіраўніцтва "Камароўкі" — кадравыя зьмены адбыліся і ў адміністрацыі Савецкага раёну.

Але зьмены тыя мала чым закранулі як Шакры, гэтак і Дуса. Першы і другі працягвалі абвінавачваць адзін аднаго, зьвяртаючыся адпаведна ў КДБ і міліцыю. І міліцыя ў рэшце рэшт перамагла – Шакры сеў за краты, Дус застаўся на волі, "чыстым" ды "чэсным", разабраўшыся з былым сябрам і канкурэнтам...

### Традыцыі і сучаснасьць

Газета, рэдактар якой мог, але не пажадаў выканаць свой абавязак журналіста і тым самым паставіць усе кропкі над "і" ў гэтай камароўскай гісторыі, газета, якая зараз і без таго у многіх асацыюецца з хлусьнёй і бессаромнай пралукашэнкаўскай пазіцыяй, мела, аказваецца, самае простае дачыненьне да гісторыі сям'і Гафсі Шакры. Я даведалася пра гэта літаральна перад самым зачытваньнем прысуду ад цесьця падсуднага.

Рэч у тым, што ў 40-я гады у рэдакцыі гэтай газеты працаваў дзядуля жонкі Гафсі, Юліі. Імя гэтага чалавека – Мікалай Жылін – і сёньня захоўваецца ў дакументах, якія расказваюць пра гісторыю самага на сёньня тыражнага беларускага друкаванага выданьня. Мікалай Жылін загінуў падчас другой сусьветнай вайны. Калі Мінск і ўся Беларусь знаходзіліся пад нямецкай акупацыяй, журналіст за сувязь з камуністычным падпольлем быў расстраляны фашыстамі. Мінуў час, і бяда датыкнулася трэцяга пакаленьня Жылiных. Але цяпер зьнішчальную эстафету, падобна, падхапіла іншае пакаленьне калегаў Юлінага дзядулі...

**Тацяна СЬНІТКО.**




*З надыходам зімы Мінск напаўняюць "мігранты" з рэспублік былога СССР, уезд якіх з-за празрыстай мяжы з Расіяй ніяк не кантралюецца. Яны "працуюць" не на Камароўскім рынку, а каля яго – займаюцца жабрацтвам. Прычым просяць грошай дзеці, а маці здалёк назіраюць за імі...*

# Служба: дзень і ноч

## альбо Погляд на жыцьцё міліцыянтаў "знутры"

Цяпер асобна разгледзім, што ўяўляе з сябе сьледчы аддзел. Пачаць трэба з таго, што ён разьмяшчаецца ў РУУС, але яго кіраўніку ніводны сьледчы не падпарадкоўваецца. Сьледчы аддзел у раёне падпарадкоўваецца упраўленьню Сьледчага камітэту па вобласьці альбо гораду Мінску. З гэтага вынікае, ягоная адносная незалежнасьць ад РУУС. Па гэтай прычыне сьледчыя апошнія некалькі гадоў не прыцягваюцца на "ўзмацненьні", зьвязаныя з культурна-масавымі мерапрыемствамі. Адно, што кіраўніцтва УСК можа загадаць сьледчым знаходзіцца на сваіх працоўных месцах, пакуль ня будзе дадзеная каманда адбой. Каб ня гэтая акалічнасьць, то сьледчы аддзел справядліва можна было б назваць мозгам РУУС, бо ён акумулюе і абагульняе працу ўсяго РУУС. Незалежнасьць ад кіраўніцтва РУУС прымушае сьледства весьці там барацьбу за месца пад сонцам. Калі сьледчы зрабіў нешта па-свойму, а ня так, як хацелася кіраўніцтву РУУС, дык гэта перарасьце ў сапраўдны скандал з кіраўніцтвам сьледчага аддзелу. Напрыклад, сьледчы адмаўляецца ўзбуджаць крымінальную справу па матэрыялах праверкі аператыўніка з-за таго, што аператыўнік не сабраў доказаў віны кагосьці, а кіраўніцтва РУУС упэўненае ў наяўнасьці ўсіх доказаў. Але звычайна сьледчыя адстойваюць свой пункт гледжаньня і змагацца з імі вельмі цяжка. У выніку пасьля ўзбуджэньня крымінальнай справы сьледчым астатнія аддзелы "мыюць рукі". Маўляў, хай сьледчы праводзіць расьсьледаваньне сам, нас ужо гэта не цікавіць. Супраць сьледчых выкарыстоўваюцца і брудныя метады, напрыклад, могуць абвінаваціць ва ўсіх зямных грахах.

У сьледчых самы вялікі аб'ём працы. У іх вытворчасьці можа знаходзіцца да 15 крымінальных справаў, узбуджаных супраць асобаў і да 70 крымінальных справаў, узбуджаных па факце ўчыненьня злачынства. Але самае галоўнае заключаецца ў пастаянным патрабаваньні кіраўніцтвам аддзелу выхаду крымінальных справаў у суд. Калі тэрмін папярэдняга расьсьледаваньня справы ў адносінах да асобы два месяцы, дык кіраўніцтва патрабуе расьсьледаваць іх за 2-3 тыдні, а бываюць выпадкі, што і за 2-3 дні. Паміж сьледчымі аддзеламі розных раёнаў ідзе канкурэнцыя за большы выхад крымінальных справаў у суд за месяц. Але трэба клапаціцца і пра тое, каб крымінальную справу не вярнулі на дасьледаваньне. Яшчэ горш, калі даказваецца неабгрунтаванае прыцягненьне чалавека да крымінальнай адказнасьці. На гэтым сьледчы аддзел губляе шмат зробленых "палак". А самае цяжкое – апраўдальны прысуд па крымінальнай справе. Адзін такі прысуд – і праца ўсяго аддзелу за месяц ідзе ў глум. Такую вялікую нагрузку вытрымліваюць толькі адзінкі. За год склад сьледчага аддзелу можа зьмяніцца на 60-70%. Працаваць даводзіцца з раніцы да позьняга вечару, а таксама ў выходныя і сьвяточныя дні.

Самымі прывабнымі ў РУУС лічацца аддзел пашпартна-візавай службы і інфармацыйна-аналітычны цэнтр. Працы там няшмат, на яе ня трэба прыходзіць па выходных і сьвяточных днях, ня трэба заседжвацца да позьняга часу. У гэтых аддзелах адсутнічае "ваеншчына". Пры гэтым, у аддзеле пашпартна-візавай службы можна ці ня кожны дзень зарабіць пляшку каньяку і каробку цукерак. Вольных месцаў там амаль ніколі няма, і патрапіць туды на працу даволі цяжка.

Вялікі недахоп сьпецыялістаў адчуваецца ў аддзеле эканамічных злачынстваў. Вынік іх працы адлюстроўваецца ва ўзбуджаных крымінальных справах па матэрыялах праверак аператыўнікаў гэтага аддзелу. Такіх справаў у вытворчасьці сьледчых даволі мала і толькі палова з іх даходзіць да суда. Астатнія спыняюцца з-за адсутнасьці складу злачынства ў дзеяньнях асобаў, у адносінах да якіх была ўзбуджаная справа. Зразумела, што гэта зьяўляецца дрэнным паказчыкам працы аддзелу эканамічных злачынстваў.

Ня будзем далей разглядаць кожны аддзел і службу па-асобку, бо самыя адметныя мы ўжо разгледзелі. Напрыклад, з дзейнасьцю роты патрульна-паставой службы міліцыі ці ня кожны грамадзянін хоць раз ды сутыкаўся і распавядаць пра іх няма чаго. Адзначым толькі тое, што гэта маладыя хлопцы, якія ня маюць адпаведнай адукацыі — нават сярэдняй школы міліцыі. Рота патрульна-паставой службы міліцыі – ногі РУУС і гэтым усё сказана.

Цяпер пяройдзем да пытаньня ўзаемаадносінаў міліцыі і ўладаў. У міліцыі пра палітыку ніхто не гаворыць. Цяжка знайсьці і супрацоўніка, які чытаў бы грамадзка-палітычныя выданьні. Гэта вынік вялікага аб'ёму працы. Думаць пра нешта іншае проста няма часу. Большасьць супрацоўнікаў лічыць палітыку бруднай справай. Іх асабліва не цікавіць, хто знаходзіцца пры ўладзе. Яны проста будуць працаваць у адпаведнасьці з дзеючым заканадаўствам, якое яно б ні было. У час апошняй прэзідэнцкай кампаніі кіраўніцтва РУУС нікога з супрацоўнікаў не агітавала за кагосьці галасаваць. Адзначалася, што гэта будзе асабісты выбар кожнага. Адзінае, усе былі папярэджаныя аб абавязковым удзеле ў выбарах і пажадана датэрміновым. Тут абавязкова трэба закрануць пытаньне аб матэрыяльным забесьпячэньні беларускай міліцыі. Узровень заробку залежыць ад выслугі, званьня, выкарыстанага працоўнага часу і аб'ёму выкананай працы. Такім чынам, заробкі ў міліцыі на сёньняшні дзень вагаюцца ад 140 000 рублёў да 450 000 рублёў. Абавязкова трэба пазначыць, што звычайны міліцыянт роты патрульна-паставой службы міліцыі 450 000 рублёў не атрымлівае і блізка. З іншага боку адносна высокія заробкі міліцыянтаў, у параўнаньні, напрыклад, з настаўнікамі, ёсьць прычына незацікаўленасьці ў палітыцы. А калі да гэтага прыкласьці магчымасьць атрымаць добры хабар, дык пра якую палітыку ўвогуле можна весьці гутарку?

Напрыканцы хацелася б яшчэ раз закрануць тэму, датычную ўнутранага жыцьця міліцыі і даць некалькі парадаў, якія могуць дапамагчы працаваць і трымацца на плыву ў дадзенай сьферы. Кожны павінен наматаць сабе на вус, што ў міліцыі нельга "трапаць языком". Тут створаны цэлыя сеткі, нават павуціньні "стукацтва" і пляткарства. Так званыя "шасьцёркі" існуюць у кожнай службе і кожным аддзеле. У міліцыі шмат ваеншчыны. Асабліва цяжка па гэтай прычыне даводзіцца маладым супрацоўнікам, якія ня маюць за сваёй сьпіной службы ў войску, навучаньня ў Акадэміі МУС Рэспублікі Беларусь альбо сярэдняй школы міліцыі, дзе ўжо прызвычаіліся да гэтага. З першых дзён працы малады супрацоўнік павінен паказаць сябе і перад кіраўніцтвам, і перад працоўным калектывам. Гэтыя дні вырашаюць усё. Па-першае, тое, будуць потым на табе вазіць ваду ці не. Прымаўка "сустракаюць па адзеньні..." тут працуе на ўсе сто адсоткаў. У міліцыі таксама нельга ўлазіць у працу з вушамі, нельга зацыклівацца. Заўсёды на першы план трэба ставіць сваё асабістае жыцьцё. Неабходна зрабіць сабе як мага болей вольнага часу, часу дзеля адпачынку і вырашэньня сваіх асабістых пытаньняў. Бяз гэтага супрацоўнік стане звычайным вінцікам сістэмы, які будуць круціць у розныя бакі. У яго зламаецца псіхіка і сьветаўспрыманьне. Яшчэ ні ў якім разе нельга вызначацца сярод астатніх у працы — гэта вам не дапаможа прасунуцца наверх па службовай лесьвіцы. Чым лепей вы будзеце працаваць і атрымліваць лепшыя паказчыкі, тым болей на вас будуць скідваць працы. Лепей рабіць меней, але якасна і ня страціўшы свайго вольнага часу. Падняцца ж па службовай лесьвіцы вам дапамогуць толькі асабістыя кантакты...

Так выглядае адзін з РУУС гораду Мінску. Адзначым, што падобную ж карціну вы ўбачыце і ва ўсіх астатніх. Ня хочацца рабіць нейкія высновы з напісанага. Кожны зробіць іх сам. Я ж для сябе адзначыў асноўнае: праца ў міліцыі ня з лёгкіх і мае свае адметныя асаблівасьці. І тая ж гарэлка п'ецца тут ня проста так...

**Клім ЧУРКО.**

*Працяг. Пачатак у № 20-21(92-93).*



Права на волю. Бюлетэнь Грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтр "Вясна".
Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах.
Наклад 299 асобнікаў. Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.
Пры передруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.

Адрас рэдакцыі:
220013 Менск, а/с 49.
E-mail:viasna@spring96.org
www.spring96.org

*У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву ГА ПЦ "Вясна"*